 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 1 (1036) ГОД XXI 4 СТУДЗЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.







*На лыжнай прагулцы.*

*Фота Э. Трыгубовіча*

# Аснова нашай вёскі

Нядаўна М. Нурэцкі ў сваіх артыкулах („Ніва" ад 9 і 16 лістапада г.г.) закрануў вельмі важную праблему з сучаснага жыцця нашай вёскі, а іменна: няспынны адыход маладых людзей ад працы на зямлі, паскоранае павелічэнне колькасці сялян-пенсіянераў, што здаюць у дзяржаўны фонд свае гаспадаркі, і ў сувязі з гэтым неўзабаве ў Беластоцкім ваяводстве *„амаль 70 тысяч га больш ці менш ураджайнай зямлі астанецца без моцных рук"*. Вось аб такіх звычайных, працавітых і дбайных дзвюх парах маладых моцных рук, што трывала звязалі сваё жыццё з *зямелькай-карміцелькай,* адчуваюць сябе на ёй дасканала і не маюць намеру шукаць выдуманых раскошаў па-за вёскай мне і хочацца сказаць некалькі слоў.

На самай справе сёння трыццацігадоваму **Аляксандру Міхалевічу** і яго жонцы **Валянціне** нічога не перашкаджала развітацца з **Волькай Выганоўскай** — вёскай, што закінута недзе ў глыбі Арлянскай гміны, адкуль усюды далёка: тры з лішнім кіламетры да чыгуначнай станцыі і каля пяці — да паўстанка ПКС-у. Аляксандр здабыў правы прафесіянальнага шафёра і нават падумваў, каб падацца куды-небудзь у далёкі і каляровы свет. Але трапілася пад руку праца прадаўшчыка ў краме ў сваім сяле, і ён некалькі год прастаяў за прылаўкам. Аднак ні шафёрскія далёкія і заманлівыя рэйсы, ні праца ў гандлі не запаланілі яго сэрца. Падобна не спакусілі прыгожую і разважлівую Валю прывабнасці гарадскога жыцця. Іх знаёмства хутка перарадзілася ў глыбокае пачуццё і неўзабаве прыстойная пара стала на вянчальным ручніку.

Пажылыя ўжо маці і бацька Аляксандра з адкрытым сэрцам хлебам-соллю і дзвюма чаркамі віна прывіталі маладую пару на парозе роднай хаты ды радаваліся, што на выпеставаную іх працавітымі рукамі гаспадарку прыходзіць любая ім падмена. І спадзяванні бацькоў апраўдалі сябе.

Маладыя разам з бацькамі перш за ўсё разгарнулі гадоўлю быдла і свіней, сталі вырошчваць насенную бульбу па кантрактацыі, заняліся таксама расшырэннем старых і пабудовай новых гаспадарчых будынкаў. Словам, гаспадарка пачала расцвітаць, хоць абшар яе і не такі вялікі: 8 га ворыўнай зямлі, 3 га лугу і пашы і 2 га лесу. У мінулым годзе статак быдла ў Міхалевічаў складаўся з 15 штук, у тым ліку было 7 дойных кароў, ад якіх у сярэднім у месяц яны дастаўлялі на пункт скупкі 1200-1500 літраў малака, прадалі каля 1600 кг маладой ялавічыны і 500 кг свініны. І гадоўля будзе павялічвацца: на будучы год яны плануюць трымаць 8 дойных кароў, павялічыць пагалоўе ўбойнай жывёлы, расшырыць гурт авечак, які цяпер складаецца з 6 штук.

— А што на полі і лузе? — пытаю А. Міхалевіча.

— Сказаць па праўдзе — па-рознаму. Кантрактуем бульбу, збожжа, горкі лубін, канюшыну. У 1973 г., напрыклад, здалі мы 17 тон бульбы і 3 тоны збожжа, даставілі таксама не мала насення лубіну і канюшыны. Але вось у міну-

(Працяг на стар. 4)

# Тое, што было штодзённым

Так яно ўжо ёсць! Такі закон! Жыццё змяняецца з кожнай хвілінай. Тое, што яшчэ ўчора звычайна бытавала — сёння ўжо традыцыя, пастуова пераходзячая ў гісторыю, як помнік мінуўшай культуры. І хто яго ведае, што прынясе будучыня? Вядома толькі адно — тое, што год таму назад яшчэ было штодзённым, напэўна перародзіцца ва ўспамін, легенду ці казку. Гэта ж зразумела, ніхто не ходзіць у зад. Нармальная рэч. Кожны добра ведае, што непаўторна ўжо адыйшлі са стала



*Ян Садоўскі са сваімі драўлянымі кухоннымі прадметамі.*

драўляныя лыжкі, міскі, сальніцы, якія некалі былі неабходнымі пры кожнай спажыве. Ці ж не ўспамін гэта, які часта наводзіць сум на старых людзей — адзіных сведкаў іх мінуўшай маладосці. Народ, аднак, не так лёгка дазваляе загінуць таму, што было калісьці так блізкае чалавеку. З пакалення ў пакаленне перадае ён гісторыю і ўмовы жыцця сваіх дзядоў і прадзедаў.

Заглянем сёння ў Паўлы, што ў Заблудаўскай гміне, да Івана Садоўскага, які ўжо ад 1967 г. займаецца вырабамі драўлянай пасудзіны і розных кухонных прылад. Які ж быў шлях?

— Ніхто мяне да гэтага не прывучаў, — пачынае наш творца. — Кожны ў жыцці павінен мець сваё месца. Адзін займаецца навукай, другі ўзносіць заводы, а я быў столярам, простым столярам-самавукам.

Спачатку будаваў ён дамы. Адно за адным узрасталі прыгожыя, пахучыя смалой памяшканні. Аднак, як вядома, дрэва замянілася цэглай, і роля столяра, такая каштоўная некалі, пачала тут змяншацца. І тады падгледзеў ён у суседа, як той рабіў драўляныя лыжкі. Зацікавіла. Паспрабаваў сам. Пайшло як па масле. І з той пары не мог ужо адарвацца. Але што ж так рабіць абы рабіць. Не будзеш жа імі платоў гарадзіць. Будучы аднойчы ў Беластоку, зайшоў у „Цэпэлію" і з той пары пачаў з ёй супрацоўнічаць. Нарадзіліся свае ўласныя планы, якія паступова ператвараліся ў гатовыя вырабы.

Заглянем у майстэрню, у якой наш творца ў апошні час праводзіць большую частку свайго жыцця. Дзіўны тут свет. Адчуваеш сябе так, як бы ў сне, які перанёс цябе ў вёску з-прад добрых некалькі дзесяткаў год, аб якой так многа чытаў у гісторыі. Чаго тут няма! Аж цяжка проста паверыць, што гэтыя кубкі, збаночкі, сальніцы,

(Працяг на стар. 4)



*Кухонныя прадметы, якія вырабляе з дрэва Ян Садоўскі, жыхар вёскі Паўлы (гміна Заблудаў).*

## Праз тыдзень у „Ніве"



 

 




## Некаранаваныя каралі Какосавых астравоў

Звестак аб „каралеўстве“ Какосавых астравоў не знайсці ні ў адным даведніку. Пра „караля“ гэтай тэрыторыі не ўпамінаецца нават у самых салідных энцыклапедыях. Аднак такі „кароль“ існуе і нават мае, як гэта належыць царствуючым асобам, свой парадкавы нумар — пяты.

Гісторыя ўзнікнення дынастыі „каралёў“ Какосавых астравоў — Росаў пачалася ў тыя часы, калі дзёрзкія першаадкрывальнікі плавалі на сваіх суднах па прасторах Індыйскага акіяна. Какосавыя астравы, размешчаныя за 1 400 міль на паўднёвы ўсход ад Цэйлона і за 1 720 міль на паўночны захад ад Аўстраліі, упершыню адкрыў у 1609 годзе англійскі мараплаўца Уільям Кілінг, які рабіў падарожжа з Індыі ў Сінгапур. Ён высадзіўся на адным з атолаў і далажыў аб сваім адкрыцці каралеве Вялікабрытаніі. З таго часу Какосавыя астравы называюць таксама імем Кілінга. У 1823 годзе спрадвечную цішыню астравоў парушыў вядомы ў той час рабаўладальнік Аляксандр Хеа. Ён падышоў на сваіх караблях да берагоў Какосавых астравоў у пошуках „жывога тавару“. Некалькі дзесяткаў яго піратаў сагналі мясцовых жыхароў і павезлі іх на продаж у Малайзію. А яшчэ праз чатыры гады на адным з астравоў высадзіўся са сваёй сям'ёй шатландскі капітан Джон Клуніс-Рос. Ён і стаў Росам Першым.

Мясцовыя жыхары, паводле сцвярджэння летапісца „караля“, „радасна сустрэлі белых прышэльцаў, якія падарылі ім шоўк, тытунь і віно“. Паступова Рос Першы прыбраў да рук усе астравы, а разам з імі і іх жыхароў. Уладанні яго разрасталіся, не хапала рабочых рук. Тады Джон Клуніс-Рос закупіў вялікую партыю рабоў у Сінгапуры і Малайзіі і абвясціў сябе „каралём“ Какосавых астравоў.

За апошнія сто гадоў афіцыйнае праўленне гэтай тэрыторыяй не раз пераходзіла ад адной дзяржавы да другой, але фактычна бязмежная ўлада на Какосавых астравах заставалася ў руках „дынастыі“ Росаў. Каб замацаваць гэту ўладу, Росы дабіліся спецыяльнага распараджэння каралевы Вялікабрытаніі Вікторыі аб перадачы Какосавых астравоў у вечнае карыстанне іх „дынастыі“.

Цяперашні „кароль“ Рос Пяты, саракашасцігадовы цёзка шатландскага капітана Джона Клуніса-Роса, жыве ў палацы, пабудаваным яго продкам у мінулым стагоддзі. У яго замку 10 спальняў, 4 ванныя пакоі, вялікая бальная зала і іншыя памяшканні. Бібліятэка дынастыі Росаў, якая налічвае больш як 5 000 тамоў, складаецца ў асноўным з дэтэктыўных раманаў. Галоўная славутасць „каралеўства“ Какосавых астравоў — вялізны вінны склеп, склад старых марак віскі.

Пад уладай Роса знаходзяцца больш як 600 малайцаў, якія былі ў розны час насільна прывезены на астравы для цяжкіх работ. Яны з раніцы да вечара працуюць на какосавых плантацыях за 3,5 долара ў тыдзень. Асноўны артыкул экспарту „каралеўства“ — какосы.

Як паведамляе агенцтва Рэйтэр, турысты, якія наведалі не так даўно Какосавыя астравы, былі ўражаны жабрацкім становішчам мясцовых жыхароў, якое, паводле іх слоў, мяжуе з рабствам.

Камітэт ААН па дэкаланізацыі не раз звяртаўся з патрабаваннем прадставіць Какосавым астравам незалежнасць і суверэнітэт. Аднак Джон Клуніс-Рос ігнаруе гэта патрабаванне. Урад Аўстраліі, пад пратэктаратам якой знаходзяцца Какосавыя астравы, прапанаваў клану Росаў выкуп за гэту тэрыторыю ў размеры 3,5 мільёна долараў. Але Рос Пяты цынічна заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту агенцтва Рэйтэр, што „ён, магчыма, і згодзіцца“, калі Аўстралія выплаціць яму не менш як 17 мільёнаў долараў.

**А. Аляксандраў**



*Помнік У. І. Леніну ў скверы Мінскай клінічнай бальніцы № 3 імя Клумава. Былая падпольшчыца Зінаіда Мурашка расказвае піянерам аб тым, як быў выратаваны помнік.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## Подзвіг патрыёта

У глыбіні сквера Мінскай клінічнай бальніцы № 3 стаіць на п'едэстале помнік Уладзіміру Ільічу Леніну. Вялікі правадыр адлюстраваны ў момант яго прамовы. Яго правая рука, накіраваная наперад, як бы паказвае шлях да далейшага росквіту Радзімы. І хто б не ішоў побач, кожны з пашанай затрымліваецца ля знаёмай фігуры Ільіча.

Нямногія ведаюць, аднак, нязвыклую гісторыю гэтага помніка. Ён быў устаноўлены ў скверы яшчэ да вайны, у 1936 годзе. Адкрыццё яго вылілася ва ўрачыстае свята. На мітынг сабраліся дактары, вучоныя, медыцынскія сёстры, санітаркі, выздараўліваючыя хворыя. Яны пакляліся быць вернымі справе Леніна, свята выконваць яго запаветы. Работнікі бальніцы паставілі каля помніка зручныя лавачкі, пасадзілі кветкі. З вясны тут кожны год цвіў бэз і ружы. Гэты куточак быў любімым месцам адпачынку хворых.

Але вось летам 1941 года, калі гітлераўскія захопнікі ўварваліся ў Мінск, ціхі бальнічны скверык агаласіўся чужой, незнаёмай мовай. Фашысты рыліся па двары, абламалі бэз, утапталі ў гразь лісточкі руж. Пасля яны акружылі помнік.

Дзяжурны санітар Пётр Восіпавіч Мурашка вельмі перажываў. Ён бачыў, як доўгі немец у шэрым кіцелі, бадай, афіцэр, нешта злосна крычаў, размахваючы рукамі. Пётр Восіпавіч не ведаў нямецкай мовы, але сэрцам пачуў, што гітлераўцы задумалі нешта нядобрае, што хочуць знішчыць дарагі помнік.

Афіцэр падазваў яго бліжэй і, паказваючы на помнік, зрабіў выразны жэст: капут!

— Я ёсць тутэйшы садоўнік, — пастукаў сябе ў грудзі Пётр Восіпавіч. — Не трэба засмечваць тэрыторыю сквера. Помнік я сам... сам... Разумееце?

Ён узяў лом, накіраваўся да помніка і стаў там старанна капашыцца, робячы выгляд, што ўжо прыступіў да работы. Немцы пакінулі яго ў спакоі.

А вечарам, прыйшоўшы дахаты, ён расказаў аб злых намерах фашыстаў сваёй жонцы. Зінаіда Мікалаеўна страпянулася, прыціснула да сябе стаяўшага побач сына, дванаццацігадовага Лёніка. Яна глядзела на мужа з нейкай трывожнай надзеяй, чакала яго рашэння.

— Трэба схаваць помнік, — сказаў ён цвёрда. — Я помню, як яго ставілі, ён складаецца з трох частак, але мне аднаму яго не адолець...

— Мы з Лёнікам дапаможам.

Зінаіда Мікалаеўна рашуча паднялася са стула, і яны хутка сабраліся. Пётр Восіпавіч раздабыў недзе ў бальніцы спірту і „пачаставаў“ нямецкіх ахраннікаў. Тыя моцна захмялелі, крычалі на ўвесь двор: гут! гут! Потым заціхлі, відаць, задрамалі недзе на лавачцы.

Тым часам сям'я Мурашкі прыступіла да справы. Бацька загадаў Лёні каравуліць каля брамы бальніцы, каб хто-небудзь з гітлераўцаў выпадкова не зайшоў у сквер. А сам з Зінаідай Мікалаеўнай стаў асцярожна разбіраць помнік па частках.

Яны працавалі амаль цэлую ноч.

Раптам прыбег Лёнік. Ледзьве стрымліваючы хваляванне, паведаміў:

— Немцы!..

Пётр Восіпавіч падаў умоўны знак, і яны ўсе трое схаваліся ў толькі што выкапанай яме. З боку вуліцы даносілася цоканне кованых ботаў. Нямецкія салдаты патрулявалі па гораду, але, на шчасце, у бальнічны сквер не зайшлі.

Цяпер, калі ўстанавілася цішыня, трэба было помнік палажыць у яму. Кожная частка, акуратна загорнутая ў толь, была падрыхтавана, заставалася толькі апусціць у зямлю, надзейна накрыць зверху дзярном — і ўсё. Гэта было зроблена хутка. Каб лепш замесці сляды, Пётр Восіпавіч і Зінаіда Мікалаеўна прадбачліва пасадзілі на тым месцы кусты бэзу...

Нядаўна я быў у бальніцы, сустрэўся з Зінаідай Мікалаеўнай Мурашка. Гэта ўжо пажылая, сівая жанчына.

— Гэта страшны час быў, — з хваляваннем успамінае яна. — Назаўтра, калі фашысты ўгледзелі, што помніка няма, яны азвярэлі зусім. Пачалі дапрашваць медыцынскіх работнікаў, пагражалі ім расстрэлам. Але хто ведаў, нас не выдаў... І пасля яшчэ доўга хадзілі чуткі, нешта накшталт легенды аб тым, як за адну ноч помнік таямніча знік.

Жыццё ў акупаваным горадзе было поўнае трывог і нястач. Савецкія людзі, пайшоўшы ў падполле ці схаваўшыся ў лесе, змагаліся з ворагам. Змагаўся і калектыў бальніцы. Барацьбой кіраваў прафесар Яўген Уладзіміравіч Клумаў. Медыцынскія работнікі памагалі партызанам, дастаўлялі ім медыкаменты, перавязачны матэрыял, хірургічныя інструменты.

Аднак не спалі і гестапаўцы. Яны пачалі сачыць за прафесарам і яго баявымі таварышамі, назбіралі нямала фактаў, якія гаварылі супраць іх. Хутка быў арыштаваны Пётр Восіпавіч Мурашка. А прафесара Клумава фашысты пакуль не чапалі. Яны хацелі пакінуць яго працаваць на іх.

Але не такі быў савецкі вучоны. Ён плюнуў гестапаўцам у твар. Тады гітлераўскія каты адразу ж пасля допросу забілі яго разам з жонкай. Спакойна, без страху, прынялі смерць адважныя патрыёты. Іх подзвіг не забыты. Прафесару Я. В. Клумаву пасмертна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, а бальніца, дзе ён працаваў у суровую гадзіну, носіць цяпер яго імя.

Больш трох гадоў праляжаў у зямлі помнік Уладзіміру Ільічу. А калі нямецка-фашысцкія акупанты былі выгнаны з Мінска, работнікі бальніцы адкапалі яго і зноў устанавілі на п'едэстале. Толькі Пятру Восіпавічу не ўдалося ўбачыць выратаваны ад ворага дарагі помнік. За сувязь з партызанамі ён быў замучаны гітлераўцамі.

**Павел Тармасаў**
**Фота Э. Трыгубовіча**




**Sobota — 3.I.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 8.15 Ten trzeci — film fab. NRD. 10.00 Dla szkół: kl. I—III. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 15.25 Red. Szk. Zap. 15.35 Pr. I prop. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Dzien. 16.05 Obiektyw. 16.25 Radar. 16.40 Rep. film. 17.10 Sobota Mł. 17.55 Rajd star. samochodów. 18.35 Za kierownicą. 18.55 Rajd star. samochodów — cz. II. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Aferzysta — film fab. radz. 21.50 Dzien. 22.10 Sport. 22.25 Z naj. życz. dla ZPO Bytom. 23.50 Opow. Star. Pana.

**Niedziela — 4.I.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 Caravaggio — film ser. wł. 11.50 Lekt. Pegaza. 12.05 Dzien. 12.25 Tydzień. 12.55 Przegl. pol. 13.25 Turniej Czterech Skoczni. 15.15 Los. Duż. Lotka. 15.30 Dla dzieci. 16.25 Z kamerą wśród zwierząt. 16.55 Tel. spotk. z balladą. 17.55 Bank Banków. 18.40 Niezapom. melodie. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 21.20 Sentymenty — widowisko lit. 22.20 Sport. 22.50 Pr. rozr.

**Poniedziałek — 5.I.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Chem. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu — ser. film radz. 18.50 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Tel. Michael V. Cazzo „Kapelusz pełen deszczu". 21.50 Świadkowie. 22.20 Dzien. 22.40 Sport. 22.50 Spotk. z Biserem Kirowem.

**Wtorek — 6.I.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 7.30 Film fab. 9.00 Dla szkół: kl. I. 10.00 J. pol. kl. VI. 11.05 Wych. plast. kl. VII—VIII. 13.25 Tech. Rol. Mat 14.05 Mech. rol. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Na wielkim i małym ekr. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Turniej Czterech Skoczni. 18.05 Fakty, Op., Hip. 18.25 Stud. Tel. Mł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Czterdziestolatek. 21.25 Interstud. 22.30 Śmiejemy się z siebie. 23.00 Sport.

**Środa — 7.I.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 7.30 Film fab. 9.00 Dla szkół: Fiz. kl. VII. 10.00 Hist. kl. V. 11.05 kl. VII. 12.00 Chem. kl. VIII. 12.45 Tech. Rol. Zool. 13.25 Hod. zwierz. 14.40 Kurs Przyg. Fiz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.40 Inf., tow., prop. 17.50 Moniuszko bez aureoli. 20.20 Śmierć rowerzysty — film fab. hiszp. 21.35 Czym żyje świat. 22.05 Dzien. 22.25 Sport. 22.35 Tak jest jak się państwu wydaje.

**Czwartek — 8.I.** 6.00 Tech. Rol. Zool. 6.30 Hod. zwierz. 8.30 Film fab. 10.00 Dla szkół: Hist. kl. VII. 13.25 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.10 Poligon. 18.30 Ekran i życie. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Za nimi szła śmierć. — film fab. wł. 21.50 Pegaz. 22.35 Dzien. 22.55 Sport.

**Piątek — 9.I.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Pr. dla najmł. 10.20 Film fab. 12.00 Dla szkół: Geogr. kl. VII. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Karnawał. 18.05 Inf. Wyd. 18.20 Człowiek i przyr. 18.50 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Serenite — wid. poet. 21.05 Panorama. 21.50 Podróże z Hagawem — film rozr. 22.20 Dzien. 22.35 Sport. 22.45 Inf., tow., prop.




**Sobota 3.I.** — 9.00 Film fab. 16.15 Film fab. 17.40 Film dok. 18.00 Klub film. 19.30 Koncert.
**Niedziela 4.I.** — 7.30 Filmy anim. 8.45 Film fab. 12.40 Filmy dok. 14.05 Koncert. 14.55 Film fab. 16.15 Filmy anim. 16.40 Koncert. 19.30 **Hokej.**




**Białowieża** Generał śpi na stojąco — wł. 6—7. Kraksa — wł. 8—9. Szczęśliwy człowiek — ang. 10—11.
**Czeremcha** Miłość i anarchia — wł. 6—7. Orzeł i reszka — pol. 10—11.
**Czyże** Mania wielkości — fr. Ziemia obiecana — pol. 7—11.
**Dubicze Cerkiewne** Awans — pol. Noc na Karlsztejnie — czes. 7—11.
**Gródek** Dzieje grzechu — pol. 10—11.
**Kleszczele** Niezawodni przyjaciele — rum. 6—7. Gorący śnieg — radz. 8—9. Strach — pol. 10—11.
**Michałowo** Wspaniały interes — fr. 6—7. Och jaki pan szalony — ang. 8—9. Nokaut — jug. 10—11.
**Mielnik** Porozmawiajmy o kobietach — USA. 7. Złoto dla zuchwałych — jug. 10—11.
**Milejczyce** Dzień oczyszczenia — pol. 6—7. W drodze na Kasjopeję — radz. 8—9. Czerwone i białe — pol. 10—11.
**Narew** Jarzębina czerwona — pol. Miłosne kłopoty — radz. 7—11.
**Narewka** Komedia pomyłek — pol. Okna czasu — węg. 7—11.
**Nurzec** Po tamtej stronie słońca — ang. 6—7. Poszukiwany, poszukiwana — pol. 8—9. Wystrzał — pol. 10—11.
**Orla** Gniazdo — pol. Miłość rozkwita — rum. 7—11.
**Rajsk** Miasto w czerni — rum. Zapamiętaj imię swoje — pol. 7—11.
**Suchowola** El do Rado — USA. Szary okrutnik — radz. 7—11.

**ГП БГКТ глыбока смуткуе з прычыны смерці заслужанага дзеяча таварыства**

**ВАСІЛЯ ДЗУНА**

**і выказвае шчырыя спачуванні сям'і нябожчыка.**

B.Z.Graf. Zam. 3074. P-1.



 

## СВЯТАЯ ГРЭШНАСЦЬ

(працяг)

10

*Так ці інакш*
*Усё што перажыта*
*У віхры пацалункаў безразумных*
*Яго красу*
*Трактую я як жыта*
*І не забуду*
*У памяці не зглумлю*
*Яно было і ёсць*
*І хіба будзе*
*У глебу сэрца ўраслі карэнні*
*І цеплыні яго*
*Час не астудзіць*
*Не знішчаць клопаты і сутарэнне*
*Звініць каханне*
*Дзіўным інструментам*
*Шчаслівы той хто гукі яго знае*
*Хоць розум кажа — я забыў*
*дашчэнту*
*Ды сэрца заяўляе — памятаю*

11

*Дзе сонца ёсць*
*Павінны быць і хмары*
*Касцюм жыцця*
*Не сшыты ніткай шчасця*
*Я сёння аб табе дзяўчына*
*Марыў*
*І прагнуў*
*Ад усіх людзей украсці*
*Ды не украў*
*Не змог*
*Не быў у стане*
*Таму пакінуў*
*Свой намер на потым*
*Танцуюць думкі*
*Як у рэстаране*
*Танцуюць рыфмы вершаплёту*
*Шчаслівы я*
*Сваёй бядою сёння*
*Каб не яна*
*Дык сэрца мабыць спала б*
*А так*
*Пульсуюць рыфмай мае скроні*
*І верш з-пад сэрца*
*Сочыцца памалу*
*Дык дзякую табе*
*Што не мая ты*
*Затое верш мой*
*Нібы кроў і косці*
*Я сёння толькі хмарамі багаты*
*Але за імі сонца госціць.*

12

*Нашы рукі*
*Размаўлялі з травамі*
*Нашы вусны*
*Цалавалі верасень*
*Мы прайшліся разам*
*Над атавамі*
*Песням луга*
*Аб жыцці паверылі*
*Кожны дзень*
*Пражыты разам з зеленню*
*Слоем шчасця*
*У сэрцы адкладаецца*
*радасцю зялёнаю падсцелены*
*Сны ніколі ўжо не забываюцца*
*Мы прайшлі у даль*
*Пад небасхіламі*
*І між вербаў*
*Сталіся палоннымі*
*Глянуў я у вочы твае мілая*
*А яны — дзве радасці зялёныя*

13

*Зноў твая постаць*
*Паяўляецца ў снах*
*Дык значыць*
*Не магу ніяк забыцца*
*Прыходзіш*
*Як прыходзіць у лугі вясна*
*З'яўляешся*
*Як сосны у пшаніцы*
*Я зноў зняволены*
*Шукаю тваіх губ*
*Убачу твар твой*
*Але што такое*
*Да рук тваіх*
*Я дакрануцца не магу*
*Бо ты далёка*
*Быццам за імглою*
*І так жыву я*
*У абдымках сноў*
*Як птах у небе*
*У блакітным змане*
*Чакаю кожны час*
*Калі ты зноў і зноў*
*Паявішся ў залатым тумане.*

14

*О не не так болей быць не можа*
*Я тут з табой а ты там без мяне*
*Ленуся*
*Ці чортаў ногаць ці мо палец божы*
*Над намі сёння павярнуўся*
*І зараз лёс наш не ад нас залежыць*
*Але ад сіл таемных невядомых*
*Ляжаць між намі як стагоддзі межы*
*Усюды слізка і усюды строма*
*Шукаю я цябе шукаю безупынна*
*І там куды іду няма цябе і квіта*
*І безлітосна сёння мне пустэча*
*Падсунула разбітае карыта*

**Алесь Барскі**


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 204


## Званы Хатыні

Цячэ ракою у Хатынь
Бясконцая людская плынь,
Тырчаць у неба каміны,
Гудуць, гудуць на іх званы,
Плыве іх рэквіем кругом:
Бом, бом, бом.

Журботна рэквіем гучыць
У памяць тых, хто вечна спіць,
У памяць матак і бацькоў,
У памяць дочак і сыноў,
У памяць спаленых жыўцом:
Бом, бом, бом.

Нясіце ў свет, званы, праклён
Забойцам учарашніх дзён,
Падпальшчыкам нявінных сёл,
З-пад знаку свастыкі крамол,
Што куляй нішчылі, агнём:
Бом, бом, бом.

Званіце, як набат, званы,
Кляйміце носьбітаў вайны.
Ніколі войнам не бываць!
Людзям ад войнаў не ўміраць:
Грыміце грозна ўсе, як гром:
Бом, бом, бом.

**Віктар Швед**

## Нашыя дарогі

*Ідзеце ўсе*
*сцежкай адзінай*
*павольна, за крокам крок*
*з дня ў дзень.*

*Скажыце мне,*
*дзе дарогі вашы,*
*па якіх людскасць*
*павінна каціцца*
*хутка, разумна?..*

*Ноч перадనядзельная.*
*Думка адна*
*не дае заснуць.*
*На аглянутым фільме*
*індзеец загінуў за зямлю:*
*„Яна — гэта частка мяне,*
*я — гэта частка зямлі".*

*За любоў*
*за высакародную любоў...*
*...белыя яго забілі...*
*Ці гэта праўда?*
*Цяжка мне верыць.*

*Далёкія ЗША,*
*вы проста ляціце*
*ўперад*
*шырыннай дарогай,*
*не заўважаеце*
*сцежак,*
*мінаеце,*
*яшчэ горш,*
*закідаеце балотам,*
*хаця яны бываюць*
*прыгожыя... прыгожыя....*

**Ніна Гаўрылюк**

## З цыкла: Задуменні

Муза не спіць. Муза стаіць за плячыма,
На вуха дыктуе ўсё словы і словы.
Словы тут жа чарнеюць, згарэўшы, як куль
саломы.
Сяджу папоцемку з аслеплымі вачыма.

**Ян Чыквін**

* * *

Быў бы рады я
калі-б ты прыйшла
сном
вялікім вобразам неба
утуленая пад мае крылы
Я рад быў бы з'яве быў бы рад

За пагоду ў дождж
за усмешку ў журбе
і за цуд паяўлення
далёкага
недасяжнага
Табе заплаціў бы даверам

Злітая з абыдзёншчынай
была б памяццю
што ўцяляла яшчэ кветка
на пустыні
незразумення
і часу.

**Кастусь Бандурук**

## Успаміны

*Вярнулася думка*
*з глыбокай задумы.*
*Шукала забытых*
*знаёмых слядоў.*
*Радосных і сумных,*
*У сэрцы укрытых,*
*хвілін і гадзін*
*перажытых гадоў.*
*Вярнулася рэха*
*з шырокіх прастораў,*
*адбітае звонка*
*ад гор і лясоў.*
*Пачуўшы яго,*
*мне, здалося, што ўчора*
*слухаў той я гаворкі*
*і тых галасоў,*
*Вярнулася шчасце,*
*што сэрца трывогай*
*сціскала да болю*
*на сам успамін.*
*Вярнулася радасць*
*той самай дарогай...*
*Як жыць было б горка*
*без гэтых хвілін.*

**Л. Танкевіч**

* * *

і нібы пыл
з растоптанае краскі
кінуты ў вір
мутнога існавання
ляцім на крылах
хаатычных ветраў
аддаўшы ў рукі іх
сваё жаданне
і так як ветразь
свой нясем мы човен
з рулём паломаным
да берага
чужога прабывання
і што ж з таго
што напаткаем
мо там краску
калі мы пыл
з растоптанай да расцвітання

**М. Шаховіч**

## Зялёнае яблыка

Танцавальная святліца
аркестр іграе
„Асенні роккэндрол"
Целы плынна
выгінаюцца
плывуць
магічна
адплываюць
Падлога ўцякае
з-пад ног
гнуцца
Лапаю сцены
кружаць
Дзяўчына смяецца
цалую нявінную
чагосьці смяюся
Ізноў
папаў у вір ізноў
між небам
і
зямлёй
шэшат гітар ізноў
. . . . . . . . . .
Канец забавы быў
на другі дзень
не было яе
пайшоў
у сад
і
сарваў зялёнае яблыка.

**П. Кірызюк**

## Жыццё і жыць

Жыццё
гэта надзея
жыць
гэта значыць верыць
У што?
Залежыць
ад мэты
Жыццё
гэта праміканне
жыць
гэта значыць цярпець
За грахі якія?
замала
замнога
ўсё роўна
Жыццё
гэта людзі
жыць
гэта значыць адчуваць
тужыць ці не чакаць
Жыццё
гэта клопаты
жыць
гэта значыць ваяваць
за кожную хвіліну
кожны дзень
Жыццё
гэта абман
а жыць
гэта значыць верыць
У што?
У чалавека

**Ірэна Баравік**

* * *

Затрымаю
ў далонях
вусны твае
боль
шчасце
цябе
затрымаць
вецер
веснавы
ў дрыготным
жыцце
не
сумею

**Вераніка Леанюк**

### ОБ ВЕРШЫКАХ О ЛЮБВІ

*А. Барскому*

*в нашых словах*
*любов так біэдна*
*як дідушка*
*куолько ж нэба прыхіліті*
*вэстхнень прычэпіті куолько*
*до зур ходяшчых*
*по болуотных дорогах*
*але чтобы мы о юй*
*нэ сказалі*
*чтоб нэ напісалі*
*всё трэбуе ялмужны*

**Зося Сачко**




*Заказвалі Эва Маркоўская, Данка Мразоўская, Бэата Врублеўская, Бажэна Бароўская, Малгажата Заянчкоўская, Анджэй Банькоўскі, Ян Врублеўскі з Бельска, Галена Гаінская, Галіна Капчэская са Страблі.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Добры Астроне! Прысніўся мне вельмі дзіўны сон. Вось я еду на ровары да бога. Са мной сядзіць мая дачка, муж едзе на другім ровары, а сын (ён стаў малым, год дзесяць) бяжыць за намі. Нас гоняць нейкія злыя людзі, ці штось іншае, ведаю, што кепскае. Я прашу мужа, каб узяў сына на ровар, але сын не хоча. Але хтосьці дае сыну дзіцячы самаходзік, каб ён на ім ехаў. Я здзіўлена, як жа сын на ім паедзе, але мне гавораць, што самаход электрычны. Сын сядае на яго, аж колы паўгіналіся, і мы едзем. Па дарозе сустракаем перашкоду. Гэта высока паложаныя дошкі. Я ўзыходжу на дошкі, хістаюся, баюся, што ўпаду, памаленьку памагаю сям'і ўзыйсці на іх, і мы пераходзім на другі канец. Там трэба сыйсці ўніз, я лёгка ссунулася і зноў памагла дзецям і мужу. І вось я ў бога. Перада мною (у чарзе) стаіць жанчына, якая прыйшла па параду да бога. Яна плаціць яму грашыма. У мяне грошай няма. Бог, ведаючы, што я без грошай, выдае здачы, але так, быццам бы мне падсунуўшы тыя грошы. Я грошай гэтых не бяру, адсоўваю іх да жанчыны, а ў сябе з валос, з заду галавы, выцягваю залаты медальён. Медальён гэты вельмі прыгожы. Бог сказаў мне, што буду жыць 55 год, а як буду дбаць аб здароў'і, то пражыву 60 год.

Астроне, можа гэта прарочы сон? Як ты думаеш?

**Валя**

Ваш сон гаворыць аб нейкім небяспечным падарожжы ў нязнанае некага з вашай сям'і. Ці не мужа? Вы ж уцякалі на двух розных роварах. Здаецца, аднак, што скончыцца яно шчасліва для вас усіх. Вы ж адолелі высока ляжачыя дошкі, ды памаглі сям'і ўзыйсці на іх. Чакае вас уганараванне і павышэнне па службе, што прынясе карысць і вашай сям'і (вы з лёгкасцю асунуліся ўніз, ды зноў памаглі дзецям і мужу). Былі ў бога — чакае вас мір і спакой. І хаця не мелі вы ў жыцці сваёй радасці (у сне — грошай), то лёс ваш абяцае павярнуцца ў добры бок, ды не за кошт чужой радасці, якую вы адкінулі, не хочучы браць грошай, прызначаных для іншай жанчыны. Навошта вам яна? Медальён, які вы выцягнулі са сваіх валос, і так абазначае нейкае любоўнае спатканне, а быў жа ён яшчэ залаты... значыць, чакае вас і паляпшэнне матэрыяльнага становішча

Што датычыцца прарочых слоў бога аб даўжыні вашага жыцця, дык думаў ён, бадай, аб пенсіі, на якую дастаткова працаваць да 55 або (пры добрым здароўі) да 60 год!

**Ваш Астрон**

## Куток практычных ведаў




### НЕКАЛЬКІ СВЯТОЧНЫХ СТРАЎ

#### ІНДЫК СМАЖАНЫ З ФАРШАМ

На сярэдняй велічыні індыка трэба ўзяць 20 дэкаў пячонкі, 6 дэкаў цёртай булкі, 10 дэкаў свежай саланіны, 3 яечкі, 5 дэкаў масла, соль, мушкаталовую галку (мускатны арэх), 5 дэкаў разынак.

Індыка на некалькі гадзін перад тым, як будзем смажыць, нацерці соллю, змешанай з лыжачкай цукру. Падрыхтаваць фарш: з пячонкі зняць плёнку, а пасля дробна пасячы, жаўткі сцерці з маслам, дадаць цёртую булку, пячонку, разынкі, прыправы і ўсё вымяшаць. У канцы дадаць збітыя бялкі і зноў лёгка вымяшаць. Фарш улажыць індыку ў падгорле, зашыць, смажыць у духоўцы. Калі індык стане румяным, ножкі і грудзі аблажыць тоненька нарэзанымі кавалачкамі сала і смажыць далей.

#### ХАЛАДЗЕЦ З КУРЫЦЫ

На адну курыцу трэба ўзяць 1 літр вады, гародніну, соль, перац.

Трэба памятаць, што халадзец трэба рабіць з курыцы нятлустай, а яшчэ лепш з кураняці. Сырую ачышчаную курыцу нарэзаць на чвэрткі, заліць вадой, пасаліць, закіпяціць. Праз некалькі мінут пасля гэтага дадаць ачышчаную гародніну і варыць ужо разам. Астуджанае ў булёне мяса і гародніну выняць. Мяса паадддзяляць ад касцей, дробна нарэзаць. Булён працадзіць, дадаць дзве чайныя лыжачкі намочанага жэлаціна. Закіпяціць. У малыя формачкі ці місачкі ўліць па некалькі лыжак булёну, застудзіць. На застуджаны халадзец класці прыгожа нарэзаныя кружочкі морквы, кавалкі варанага яечка, наверх палажыць мяса, зверху заліць застаўшымся булёнам, застудзіць. Падаючы на стол, выняць халадзец з місачак.

#### СМАЖАНАЯ ЦЯЛЯЦІНА З ФАРШАМ

Узяць цялячую лапатку, соль, зубок часнаку, 5 дэкаў смальцу. На фарш: 15 дэкаў чэрствай булкі, шклянку малака, 2 яечкі, 5 дэкаў масла, 20 дэкаў пячонкі, зялёную пятрушку, соль і цукар па смаку.

З лапаткі выняць косці, мяса крыху збіць, нацерці соллю з часнаком. Булку намочаную ў малацэ, адціснуць, жаўткі яечак расцерці з маслам, дадаць булку, пасечаную сырую пячонку, зялёную пятрушку. Вымяшаць і спалучыць з прыправамі і збітай пенай з яечак. Масай змазаць кавалак лапаткі, загарнуць і звязаць шнуркам. Спячы ў духоўцы, часта паліваючы соусам. Смажаную цяляціну астудзіць, палажыць на дошку, накрыць другой, палажыць нешта цяжэйшае наверсе. Падаваць цяляціну халодную, нарэзаную кавалкамі.

**Гаспадыня**




Дарагое „Сэрцайка"! Мне 20 год, жыву я на вёсцы, разам з бацькамі працую на гаспадарцы. Работы многа, пераважна летам, але і жывем багата. Пабудавалі прыгожы дом, ёсць у нас розныя машыны, якія намнога нам працу аблягчаюць. Мама гаворыць, што пара ўжо мне замуж, тады б лягчэй было нам гаспадарыць. Ужо пару год таму сваталіся да мяне хлопцы, але ўсё мне нешта не падабаліся. Вось і не выходзіла. А цяпер хаджу з Міхасём. Ён з нашай вёскі. Прыгожы, вясёлы, працавіты. Ён мне падабаецца. І мама гаворыць, што з яго гаспадар быў бы добры. Мы ўжо і наконт вяселля гаварылі, на весну тэрмін вызначылі. Але паехала я ў горад да сяброўкі на вяселле. Там было шмат гарадскіх хлопцаў і аднаму я вельмі спадабалася. Не адступіў ад мяне ні на крок. Гаварыў, што не спаткаў яшчэ такой дзяўчыны, як я, і ажаніўся б са мной. Жылі б у горадзе, гэта і лягчэй і весялей. Расхваліў мне так гарадское жыццё, што я набрала ахвоты пайсці з вёскі. Але не маю ніякага фаху, каб у горадзе працаваць. Закончыла толькі пачатковую школу. Ну і, праўду кажучы, і хлопец мне не вельмі падабаецца, далёка яму да таго з вёскі. Сказала аб гэтым у хаце, дык бацькі накрычалі, кажуць, вяселле абгаворана, хлопец добры, і я нічога больш не адазвалася. За якога ж хлопца мне выйсці?

Геня з Сакольшчыны

Геня! Безумоўна, за таго з вёскі. Ён жа табе падабаецца, і гэта галоўнае. Ды і куды табе з вёскі ўцякаць, пакідаць добрую гаспадарку, дзе табе ўсё вядомае, і ісці ў горад, у няведамае... Там, не маючы прафесіі, жыццё не такое ўжо лёгкае. Ці ўжо так цікава сядзець бясчынна і чакаць мужавых заробкаў, ды думаць, як гэта за адну зарплату пражыць... Хутка б ты расчаравалася і засумавала за вёскай, дзе зможаш жыць сапраўды добра і ў дастатку.

**„Сэрцайка"**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ФЕРМА ДЛЯ... КРАКАДЗІЛАЎ

Так, ёсць, аказваецца, і такая ферма. Знаходзіцца яна на Кубе, у топкіх Сапацкіх балотах. Гэты арыгінальнейшы навукова-даследчы цэнтр займаецца развядзеннем кракадзілаў.

На кракадзілаў здаўна па-драпежніцку палявалі ў пагоні за іх прыгожай і вельмі трывалай скурай. У выніку яны аказаліся пад пагрозай поўнага знішчэння. Вось кубінскія заолагі і вырашылі паспрабаваць гадаваць гэтых жывёл на спецыяльнай ферме.

Выводзяць тут кракадзілаў з дапамогай інкубатара, які „наседжвае" адразу каля 7.200 яек. З іх праз 85-90 сутак выводзяцца дваццацісантыметровыя кракадзільчыкі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: С. купіў дом, у якім чатыры пакоі. Адзін пакой займае ён сам, а апошнія тры — кватарант, які жыў там перад купляй дома грамадзянінам С. на аснове пастановы гарадскіх уладаў. Папярэдні ўласнік не жыў у гэтым доме, і дом належаў да публічнай гаспадаркі жыллёвымі памяшканнямі. Цяпер ён ад гэтага звольнены. Кватарант дагэтуль плаціў па 100 зл. у месяц. С. патрабаваў ад яго 300 зл. арэнднай платы, а калі той надалей плаціў 100 зл., якіх С. не прымаў, то праз чатыры месяцы С. падаў у суд на прымусовае высяленне кватаранта. Ці тое, што не плацілася арэндная плата ў размерах, якія ўстанавіў сам уласнік дома, дае аснову да прымусовага высялення кватаранта?

АДКАЗ: Згодна з арт. 61 жыллёвага права асобы, якія займаюць памяшканне на аснове адміністрацыйнай пастановы аб прыдзеле памяшкання, плацяць арэндную плату згодна з устаноўленымі правам стаўкамі. Калі С. лічыць, што стаўка гэта павінна быць вышэйшая, чым 100 зл., ён павінен падаць заяву ў гарадскую ўправу, у якой будзе патрабаваць устанаўлення адпаведнай арэнднай платы. Пасля гэтага ён можа патрабаваць арэнднай платы згодна з гэтым рашэннем. Самавольна ён не можа павялічыць арэндную плату. Таму пакуль што няма падстаў патрабаваць прымусовага высялення кватаранта.




Хуткім крокам Цімошкін перайшоў дарогу, пераскочыў цераз канаву, і яго сэрца, абмершае дагэтуль, раптам абнадзеена, скоранька затахкала ў грудзях. Хацелася бегчы, але ён, ледзьве стрымліваючы сябе, ішоў памалу. Ззаду зноў пачулася зморанае дыханне — гэта бег Блішчынскі. Ён дагнаў, палахліва азірнуўся і пачаў хутка апярэджваць хлопца.

— Цішэй! — шапнуў Цімошкін. — Не бяжы! Відаць!..

Блішчынскі зразумеў, што такая яго паспешлівасць можа скончыцца кепска, і пайшоў цішэй. Відаць, перамагаючы ў сабе страх, ён хутка набіраўся звычайнае свае начальніцкае сталасці.

Тулячыся да нейкіх гаспадарчых будынкаў, яны трохі адышліся ад дарогі. Цімошкін пакрысе супакоіўся, агледзеўся. Машыны ўжо ледзьве выступалі шэрымі плямамі, хлопцаў ніхто не заўважаў ці, можа, не звярнуў увагі, палічыўшы за немцаў. Наперадзе цямнела нейкая доўгая будыніна, мабыць, абора, яны зайшлі за яе рог. Дарога была яшчэ блізка, але тое, што будыніна добра хавала іх, надало смеласці, і Цімошкін даў волю сваёй злосці на земляка.

— Эх ты! Хваліўся толькі: умею, разумею. А здарылася, дык за спіну хавацца. Шкурнік!

Блішчынскі забег наперад.

— Шкурнік? — узрушана спытаў пісар. — Гэта я шкурнік? Ты думаеш, сваю шкуру ратую? Памыляешся. Во, маёрава сумка. Ты ведаеш, якія там дакументы? Ведаеш?

— Не ведаю і ведаць не хачу.

— Ось так і скажы. Каб ведаў, так бы не брахаў. Разумееш? Дурань ты. У гэтай сумцы — ваенная тайна, вот! А ты балбатун. Вот! Блішчынскі незадаволена памаўчаў, атрос вываляныя ў снег полы свайго шыняля, але ўсё не мог супакоіцца і бурчаў:

— А то шкурнік! Трэба галавой думаць. Разумець, што да чаго. Вучыў, вучыў немец — і ніякага следу. Памятаеш, у сорак другім ля Забалоцця. Якісь дурань забіў нейкага пархатага немца. Прыехалі карнікі, спалілі вёску, расстралялі дваццаць чалавек. І за што? За аднаго немца. Ну варта было лезці?

— Ага! Ведаеш, як у тым анекдоце, — сказаў Цімошкін. — Як жа ісці на вайну: там жа могуць вока выбіць?

— Дурань! — зазначыў Блішчынскі. — Яшчэ табе кажу, Цімошкін: дурны ты, як затычка. Мала цябе жыццё цёрла.

— Ладна ўжо. Добра, што ты разумны.

Ён, відаць, не на жарт зазлаваў і надзьмуўся. Моўчкі яны ішлі яшчэ доўга. Відаць, блізка быў ранак, ноч пацямнела, палявое наваколле паглушэла, неяк дужа дацінала стома, і ў хлопцаў пачалі зліпацца павекі. Абодва яны змагаліся з надакучлівым сном, на хаду драмалі і спатыкаліся. Аднойчы Цімошкін паваліўся ў снег, а калі прахапіўся і ўстаў, неяк нечакана згледзеў, што цемра рассунулася, наваколле пасвятлела. У свежым чысцюткім доле сталі відаць рэдкія сцяблінкі быльнёгу, узмежак з кустамі; наперадзе ў полі з'явілася сцірта саломы.

Вецер не сціхаў, у доле паўзла завея, і над заснежанай трывожнай зямлёй паціху світала.

### 5

— Ну, вось і выйшлі, сабачая псіна! — злосна сказаў Блішчынскі.

Яны спыніліся ля сцірты, знясілена прыхінуліся да яе запарушанага снегам саламянага боку і з роспаччу глядзелі на ўсход, куды пралягаў іх шлях і куды ўжо нельга было паткнуцца.

Непрыкметна неяк развіднела. Хмарнае ранішняе неба прыўзнялося над белым прасцягам, аздобленым плямамі ўсяго, што не было засыпана снегам. Наўскасяк ад сцірты беглі роўныя радкі вінаградніку, праз паўкіламетра ўпоперак поля, пэўна на мяжы двух уладанняў, пасталі ў рад маладзенькія дрэўцы пасадкі. Дальшым сваім канцом гэты рад прытыкаўся да невялічкага, у дзве-тры будыніны, хутара, які сіратліва туліўся сярод вялізнага снежнага поля. Крыху збоч ад яго і далей за дрэўцамі ледзь не на самым даляглядзе высіўся пукаты, як гуз, узгорак, і на ім — бачна было адсюль — хадзілі, стаялі, капалі зямлю немцы. Гэта было далёка, але хлопцы не сумняваліся, што перад імі ворагі. Толькі што з узгорка ўніз сышла група людзей, пэўна камандзіраў, адзін пастаяў яшчэ, размахваючы рукамі, мабыць, даючы ўказанні, сеў у машыну і па дарозе пакаціў у той бок, адкуль землякі ішлі ноч.

Блішчынскі дастаў з маёравай сумкі яго артылерыйскую карту і, раз-пораз пазіраючы навокал, пачаў вадзіць у ёй рудым пазногцем — шукаць месца, дзе яны цяпер апынуліся. Відаць было, што ён ужо зусім ацверазеў, пераход дарогі і гэтая няўдача з выхадам да сваіх занепакоілі яго; ад былое ўпэўненасці неяк мала што засталося.

— А давай ось так і пойдзем, — сказаў Цімошкін, паказваючы рукою ў бок ад высыпы з немцамі. Блішчынскі падняў ад карты свой заклапочаны твар, прыплюшчыў блізарукія шчылінкі-вочкі і пагледзеў, нібы панюхаў, у прастор.

— Што ты, Цімошкін! Не пройдзеш...

# КАЛЯНДАР "НІВЫ" 1976 г.

| СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК | МАЙ | ЧЭРВЕНЬ |
|---|---|---|---|---|---|
| **1 19 Ч Новы Год** | **1 19 Н Макара** | 1 17 П Хведара | 1 19 Ч Дар'і | **1 18 С Свята Працы** | 1 19 А *Дз. Дзіцяці* |
| 2 20 П Ігната | 2 20 П Яфіма | 2 18 А Льва | 2 20 П Сяргея | **2 19 Н Антона** | 2 20 С Аляксея |
| 3 21 С Ульяны | 3 21 А Максіма | 3 19 С Яўгенія | 3 21 С Якуба | 3 20 П Анастаса | 3 21 Ч *Ушэсце* |
| **4 22 Н Анастасіі** | 4 22 С Цімафея | 4 20 Ч Карніла | **4 22 Н Васіля** | 4 21 А Януарыя | 4 22 П Васіліска |
| 5 23 П Паўла | 5 23 Ч Генадзія | 5 21 П Цімафея | 5 23 П Лідзіі | 5 22 С Віталія | 5 23 С Еўфрасінні |
| 6 24 А *Куцця* | 6 24 П Ксеніі | 6 22 С Яўгенні | 6 24 А Захара | 6 23 Ч *Юрыя* | **6 24 Н Мялеція** |
| 7 25 С *Каляды* | 7 25 С Рыгора | **7 23 Н Запусты** | 7 25 С *Благавешч.* | 7 24 П Валянціна | 7 25 П Ферапонта |
| 8 26 Ч *Каляды* | **8 26 Н Марыі** | **8 24 П Дз. Жанчын** | 8 26 Ч Анны | 8 25 С Марка | 8 26 А Ялены |
| 9 27 П *Сцяпана* | 9 27 П Івана | 9 25 А Тараса | 9 27 П Матроны | **9 26 Н Дз. Перам.** | 9 27 С Ніла |
| 10 28 С Агаты | 10 28 А Яфрэма | 10 26 С Парфіра | 10 28 С Сцяпана | 10 27 П Сымона | 10 28 Ч Ігната |
| **11 29 Н Марка** | 11 29 С Лаўрэна | 11 27 Ч Пракопа | **11 29 Н Марка** | 11 28 А Кірыла | 11 29 П Хвядосіі |
| 12 30 П Хвядоры | 12 30 Ч *Трох Свяц.* | 12 28 П Васіля | 12 30 П Івана | 12 29 С Мемнона | 12 30 С Ісакія |
| 13 31 А *Шчадроўкі* | 13 31 П Кіра | 13 29 С Касіяна | 13 31 А Апалонія | 13 30 Ч Якуба | **13 31 Н Тройца** |
| 14 1 С *Новы Год* | 14 1 С Трыфана | **14 1 Н Антаніны** | 14 1 С Марыі | 14 1 П Тамары | 14 1 П *Святадухаў* |
| 15 2 Ч Сяргея | **15 2 Н Грамніцы** | 15 2 П Фядота | 15 2 Ч Ціта | 15 2 С Барыса | 15 2 А Нічыпара |
| 16 3 П Меланні | 16 3 П Сямёна | 16 3 А Яўтропія | 16 3 П Мікіты | **16 3 Н Цімафея** | 16 3 С Юльяна |
| 17 4 С Феакціста | 17 4 А Сідара | 17 4 С Паўла | 17 4 С Язэпа | 17 4 П Пелагеі | **17 4 Ч Божэ Цяло** |
| **18 5 Н Рыгора** | 18 5 С Агаты | 18 5 Ч Леаніда | **18 5 Н Вербніца** | 18 5 А Ірыны | 18 5 П Дарафея |
| 19 6 П *Вадохрышча* | 19 6 Ч Вуколы | 19 6 П Аркадзя | **19 6 П Мяфодзія** | 19 6 С *Прапалавен.* | 19 6 С Тэклі |
| 20 7 А Апанаса | 20 7 П Парфена | 20 7 С Васіля | 20 7 А Данілы | 20 7 Ч Пахома | **20 7 Н Валерыі** |
| 21 8 С Юрыя | 21 8 С Захара | **21 8 Н Фіафілакта** | 21 8 С Ірадзівона | 21 8 П Яна | 21 8 П Хведара |
| 22 9 Ч Піліпа | **22 9 Н Нікіфара** | 22 9 П *40 мучан.* | 22 9 Ч Вадзіма | 22 9 С *Мікалая* | 22 9 А Аляксандра |
| 23 10 П Рыгора | 23 10 П Валянціны | 23 10 А Міхала | 23 10 П Цярэнція | **23 10 Н Таісы** | 23 10 С Антаніны |
| 24 11 С Феадосія | 24 11 А Усевалада | 24 11 С Юрыя | 24 11 С Анціпы | 24 11 П Кірыла | 24 11 Ч Варфаламея |
| **25 12 Н Таццяны** | 25 12 С Аляксея | 25 12 Ч Шымана | **25 12 Н Вялікдзень** | 25 12 А Германа | 25 12 П Андрэя |
| 26 13 П Якуба | 26 13 Ч Святланы | 26 13 П Нічыпара | 26 13 П *Вялікдзень* | 26 13 С Глікерыі | 26 13 С Анны |
| 27 14 А Ніны | 27 14 П Кірыла | 27 14 С Расціслава | 27 14 А *Радаўніца* | 27 14 Ч Мікіты | **27 14 Н Елісея** |
| 28 15 С Паўла | 28 15 С Анісіма | **28 15 Н Аляксандра** | 28 15 С Анастасіі | 28 15 П Пахома | 28 15 П Амоса |
| 29 16 Ч Леанілы | **29 16 Н Рамана** | 29 16 П Юльяна | 29 16 Ч Ірыны | 29 16 С Музы | 29 16 А Ціхана |
| 30 17 П Антона | | 30 17 А Аляксея | 30 17 П Сымона | **30 17 Н Андроніка** | 30 17 С Ляонція |
| 31 18 С Кірыла | | 31 18 С Кірыла | | 31 18 П Аляксандры | |

| ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 18 Ч Іпація | **1 19 Н Макрыны** | 1 19 С Фёклы | 1 18 П Зоф'і | **1 19 П Усіх Святых** | 1 18 С Платона |
| 2 19 П Іуды | 2 20 П *Ільі* | 2 20 Ч Самуіла | 2 19 С Трафіма | 2 20 А Арцёма | 2 19 Ч Аўдзея |
| 3 20 С Іны | 3 21 А Ануфрыя | 3 21 П Фадзея | **3 20 Н Алега** | 3 21 С Якуба | 3 20 П Прокла |
| **4 21 Н Юльяна** | 4 22 С Марыі | 4 22 С Агафоніка | 4 21 П Кандрата | 4 22 Ч *Казанскай* | 4 21 С *Увядзенне* |
| 5 22 П Юльяны | 5 23 Ч Апалінара | **5 23 Н Калініка** | 5 22 А Іоны | 5 23 П Ігната | **5 22 Н Валерыяна** |
| 6 23 А Язэпа | 6 24 П Барыса | 6 24 П Арсенія | 6 23 С Іраіды | 6 24 С Апанаса | 6 23 П *Ал. Неўскага* |
| 7 24 С *Яна* | 7 25 С *Ганны* | 7 25 А Ціта | 7 24 Ч *Тэклі* | **7 25 Н Кастр. рэв.** | 7 24 А *Кацярыны* |
| 8 25 Ч Фяўроніі | **8 26 Н Параскевы** | 8 26 С Наталлі | 8 25 П Сяргея | 8 26 П *Дзмітрыя* | 8 25 С Клімента |
| 9 26 П Дзяніса | 9 27 П Панцялея | 9 27 Ч Пімена | 9 26 С Івана | 9 27 А Нестара | 9 26 Ч Інакенція |
| 10 27 С Іанны | 10 28 А Прахора | 10 28 П Анны | **10 27 Н Ігната** | 10 28 С Параскевы | 10 27 П Якуба |
| **11 28 Н Сяргея** | 11 29 С Серафімы | 11 29 С *Усячэнне* | 11 28 П Вечаслава | 11 29 Ч Клаўдзія | 11 28 С Сцяпана |
| 12 29 П *Пятра* | 12 30 Ч Валянціна | **12 30 Н Аляксандра** | 12 29 А Феафана | 12 30 П Зіновія | **12 29 Н Парамона** |
| 13 30 А 12 апостал. | 13 31 П Еўдакіма | 13 31 П Генадзя | 13 30 С Рыгора | 13 31 С Спірыдона | 13 30 П *Андрэя* |
| 14 1 С Кузьмы | 14 1 С *Макавеяў* | 14 1 А Сымона | 14 1 Ч *Пакрова* | **14 1 Н Кузьмы** | 14 1 А Навума |
| 15 2 Ч Юліты | **15 2 Н Васіля** | 15 2 С Івана | 15 2 П Канстанціна | 15 2 П Маркіяна | 15 2 С Авакума |
| 16 3 П Анатолія | 16 3 П Кузьмы | 16 3 Ч Анфіма | 16 3 С Дзяніса | 16 3 А Язэпа | 16 3 Ч Івана |
| 17 4 С Андрэя | 17 4 А Еўдакіі | 17 4 П Майсея | **17 4 Н Ерафея** | 17 4 С Нікандра | 17 4 П *Варвары* |
| **18 5 Н Сяргея** | 18 5 С Ноны | 18 5 С Захара | 18 5 П Пятра | 18 5 Ч Галакціёна | 18 5 С Савы |
| 19 6 П Валянціна | 19 6 Ч *Спаса* | **19 6 Н Кірыла** | 19 6 А Фамы | 19 6 П Клаўдзіі | **19 6 Н Мікалая** |
| 20 7 А Еўдакіі | 20 7 П Дамеція | 20 7 П Сазонта | 20 7 С Сяргея | 20 7 С Фядота | 20 7 П Амбражэя |
| 21 8 С Пракопа | 21 8 С Леаніда | 21 8 А *Прачыстая* | 21 8 Ч Таісіі | **21 8 Н Міхала** | 21 8 А Патапа |
| **22 9 Ч Св. Адрад.** | **22 9 Н Дзмітрыя** | 22 9 С Якіма | 22 9 П Якуба | 22 9 П Анісіфара | 22 9 С Ганны |
| 23 10 П Апалона | 23 10 П Рамана | 23 10 Ч Пятра | 23 10 С Яўлампія | 23 10 А Радзівона | 23 10 Ч Фамы |
| 24 11 С Вольгі | 24 11 А Раісы | 24 11 П Сяргея | **24 11 Н Зінаіды** | 24 11 С Віктара | 24 11 П Данілы |
| **25 12 Н Прокла** | 25 12 С Аляксандра | 25 12 С Хведара | 25 12 П Андроніка | 25 12 Ч Ніла | **25 12 С Аляксандра** |
| 26 13 П Серапіёна | 26 13 Ч Максіма | **26 13 Н Валяр'яна** | 26 13 А Веніяміна | 26 13 П Івана | **26 13 Н Яўгенія** |
| 27 14 А Сцяпана | 27 14 П Хвядоса | 27 14 П *Уздзвіжанне* | 27 14 С Назара | 27 14 С *Піліпа* | 27 14 П Калініка |
| 28 15 С Уладзіміра | 28 15 С *Успенне* | 28 15 А Мікіты | 28 15 Ч Лук'яна | **28 15 Н Гурыя** | 28 15 А Паўла |
| 29 16 Ч Аляўціны | **29 16 Н Дзяміда** | 29 16 С Людмілы | 29 16 П Лонгіна | 29 16 П Мацвея | 29 16 С Феафанія |
| 30 17 П Маргарыты | 30 17 П Паўла | 30 17 Ч Веры | 30 17 С Андрэя | 30 17 А Рыгора | 30 17 Ч Азарыя |
| 31 18 С Емяльяна | 31 18 А Іларыёна | | **31 18 Н Лукі** | | 31 18 П Зоі |

**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ "НІВУ"!**